*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 8 (1263) 24 ЛЮТАГА 2016 г.

# У краіне - тыдзень роднай мовы

## Беларуская мова - галоўны здабытак беларускай нацыянальнай культуры

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ
Пастаянная камісія па адукацыі, культуры і навуцы
220010, г. Мінск, Дом Урада, тэл./факс (017) 222-65-45, факс (017) 327-37-84
E-mail: aduk@house.gov.by

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
Постоянная комиссия по образованию, культуре и науке
220010, г. Минск, Дом Правительства, тел./факс (017) 222-65-45, факс (017) 327-37-84
E-mail: aduk@house.gov.by

15.02.2016 № 20-02/51
на № ____________ от ____________

Старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

Вашы прапановы па праекту Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб культуры ўважліва разгледжаны на пасяджэнні рабочай групы па яго падрыхтоўцы да разгляду ў другім чытанні, якая створана пры Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы.

Палажэнні пунктаў 1, 2 Вашага звароту будуць адлюстраваны ў праекце Кодэкса ў рэдакцыі, якая адпавядае тэрміналогіі праекта і ўзгоднена Цэнтрам даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Так, беларускую мову прапануецца прызнаць галоўным здабыткам беларускай нацыянальнай культуры, важнейшым фактарам фарміравання нацыянальнага менталітэту (арт. 2). Да нематэрыяльных культурных каштоўнасцей аднесены звычаі, абрады, фальклор (вусная народная творчасць), беларуская мова (вусная і пісьмовая), у тым ліку яе дыялекты, графічныя сістэмы і арфаграфічныя традыцыі, іменаслоўныя традыцыі і традыцыйныя нацыянальныя формы звароту да людзей, змест геральдычных аб'ектаў, уласных геаграфічных назваў (тапонімаў) і вырабаў народных мастацкіх рамёстваў, іншыя нематэрыяльныя праяўленні творчасці чалавека (арт. 71).

Што тычыцца іншых Вашых прапаноў (пункты 3, 4), то яны маглі б быць рэалізаваны ў рамках заканадаўства аб мовах, якім рэгулююцца адносіны ў галіне развіцця і ўжывання беларускай мовы. Канцэпцыяй праекта Кодэкса аб культуры, як і дзеючым заканадаўствам у сферы культуры, прадугледжваюцца абавязкі дзяржавы адносна гісторыка - культурных каштоўнасцей, у тым ліку нематэрыяльных. Беларуская мова не мае статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці, але яе статус дзяржаўнай мовы замацаваны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, і заканадаўства аб мовах выдзелена ў самастойную галіну права.

З павагай,
Намеснік старшыні камісіі Н.Г. Кучынская.

## Беларусы нясуць адказнасць перад продкамі за захаванне роднай мовы

Сучасныя беларусы нясуць адказнасць перад продкамі за захаванне роднай мовы, заявіў пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы.

Агенцтва БелТА цытуе дыпламата са спасылкай на прэс-службу пасольства Беларусі ў Францыі:

*"Важна, каб у гэты дзень мы памяталі пра нашых продкаў, дзякуючы якім нам перададзена родная беларуская мова - адна з самых мілагучных і прыгожых моў у свеце - перад якімі мы нясем сёння адказнасць за захаванне мовы для нашых нашчадкаў. Мы павінны таксама сёння адзначыць, што беларуская мова, як і культура, ніколі не супрацьпастаўлялі сябе іншым мовам і культурам. Яны з'яўляліся і з'яўляюцца часткай агульнаеўрапейскай, агульнасусветнай спадчыны, сучаснасці і, вядома, будучыні".*




ISSN 2073-7033




## Сур'ёзная дата ў жыцці слыннай даследчыцы Беларушчыны



**Лідзія САВІК** нарадзілася 1 сакавіка 1936 г. у вёсцы Камуна Любанскага раёна ў сялянскай сям'і Адама Васілевіча і Алены Піліпаўны Адзярыха. Бацькі, разам з іншымі, былі арганізатарамі сельскагаспадарчай камуны (в. Камуна) на Мар'інскім балоце "Над ракой Арэсай". У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны бацька пайшоў на фронт і загінуў у 1941 г. пад Масквой. Вёску Камуну спалілі немцы, маці з двума дзецьмі, Лідай і Ірынай (будучая спявачка), знаходзілася ў партызанскім атрадзе "Камсамолец" брыгады імя Панамарэнкі, была сувязной, потым у гаспадарчым звязе, узнагароджана ордэнам і баявымі медалямі. Пасля вяртання Чырвонай арміі нейкі час жылі ў г. п. Любань (там Ліда пайшла ў 1-ы клас), потым, у сувязі з пераводам айчыма Сымона Шыкунова на працу у Барысаў, Заслаўе, Койданаў і пераездам сям'і вучылася ў тых мясцовых школах.

У 1954 г. Лідзія Шыкунова закончыла Койданаўскую школу № 1 Менскай вобласці, працавала піянерважатай у Вязанскай школе Койданаўскага раёна (1954-1955), у Койданаўскай школе № 1 (1955-1959), у 1959 г. пераехала ў Менск, настаўнічала ў школе № 62 г. Менска. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1962), Інстытут удасканалення настаўнікаў (1964), аспірантуру. Працавала ў Фундаментальнай бібліятэцы АН БССР імя Якуба Коласа (1966-1978). У 1977 г. абаранiла кандыдацкую дысертацыю па праблемах сучаснай беларускай літаратуры, з 1978 г. працуе ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР малодшым, потым старшым навуковым супрацоўнікам, адначасова з 1982 г. у Беларускім універсітэце культуры. Выкладала ў ВНУ беларускую літаратуру, чытала спецкурсы пра творчасць рэпрэсаваных і эміграцыйных пісьменнікаў. З 1993 г. дацэнт Беларускага ўніверсітэта культуры, чытае курс лекцыяў па сучаснай беларускай літаратуры. Чалец Саюза пісьменнікаў Беларусі (з 1992), потым Саюза беларускіх пісьменнікаў. Адна з арганізатараў і сакратар Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", чалец Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Сакратар секцыі крытыкі Саюза беларускіх пісьменнікаў, старшыня камісіі па вяртанні спадчыны беларускіх пісьменнікаў.

Муж - Мікалай Савік, ураджэнец Койданава (23.07.1937) - вучоны-кібернетык. Сястра - Ірына Сямёнаўна Шыкунова, вядомая оперная спявачка.

Літаратурнай дзейнасцю займаецца з 1970-х г. Кірунак навуковай дзейнасці - праблемы развіцця беларускай літаратуры XX ст. Атрымала дазвол на працу ў архівах КДБ, сабрала дакладныя звесткі пра лёс рэпрэсаваных беларускіх паэтаў і празаікаў. Даследуе эміграцкую беларускую літаратуру. Аўтар звыш чым 100 артыкулаў і рэцэнзіяў, 230 энцыклапедычных артыкулаў. Збірала матэрыялы пра жыццё і дзейнасць вядомых беларусаў у Францыі, Нямеччыны ды ЗША.

***Вікіпедыя.***

## Абраны новы старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"

14 лютага 2016 года адбылося паседжанне рады Віцебскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". Адным з найбольш важных пытанняў, якое абмеркавалі сябры рады, быў зварот шматгадовага старшыні абласной рады сп. Іосіфа Навумчыка з просьбай вызваліць яго ад абавязкаў кіраўніка ў сувязі з узростам і па стане здароўя. Іосіф Адамавіч 19 гадоў узначальваў арганізацыю, якая за гэты час шмат зрабіла для папулярызацыі беларускай мовы на Віцебшчыне.

Сябры рады з разуменнем паставіліся да просьбы свайго лідара, сардэчна падзякавалі спадару І.А. Навумчыку за плённую працу на карысць беларушчыны, выказалі надзею на далейшую яго дапамогу, пажадалі здароўя. Іосіф Адамавіч застаецца Ганаровым старшынём Віцебскай абласной рады.

Новым старшынём Віцебскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" быў абраны сябар абласной рады, кандыдат філалагічных навук Юрась Бабіч.

***Наш кар.***

# Мы не можам...


Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак
№ 3015741233011 у ЦБП №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінска, код 739

12 студзеня 2016 г. № 5

Прэм'ер-міністру
Рэспублікі Беларусь
А.У. Кабякову
220010, г. Мінск,
вул. Савецкая, 11,
Дом Урада

**Шаноўны Андрэй Уладзіміравіч!**

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" вітае Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 522, паводле якога 2016 год абвешчаны ў нашай краіне Годам культуры.

Несумненна, што асноўным фундаментальным кампанентам культуры нашага народа з'яўляецца беларуская мова. У сувязі з гэтым мы прапануем уключыць у Рэспубліканскі план мерапрыемстваў у рамках Года культуры наступныя пункты.

1. Правесці 21 лютага (Міжнародны дзень роднай мовы) ва ўсіх установах адукацыі і культуры Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку на аснове тэкстаў класікаў беларускай літаратуры.

2. Вярнуць статус юрыдычнай асобы музею Максіма Багдановіча, закончыць рамонт і ўсталяванне новай экспазіцыі ў асноўным будынку, а таксама прывесці ў належны выгляд яго былы філіял, які размешчаны па вул. Рабкораўскай у г. Мінску.

3. Адрамантаваць помнік літары "Ў", які ўжо даўно разбураецца ў Полацку, бо мясцовыя ўлады не маюць на гэта сродкаў.

4. Прыняць Пастанову Савета Міністраў "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў галіне культуры, адукацыі і выдавецкай справе".

З павагай,
старшыня ТБМ Алег Трусаў

---



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45

e-mail: ministerstvo@kultura.by

10.02.2016 № 01-20/6/юл
На № 5 ад 12.01.2016

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб разглядзе звароту

Паважаны Алег Анатольевіч!

Ваш зварот, па даручэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 студзеня 2016 г. № 05/535-5/694р, разгледжаны сумесна з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Па выніках яго разгляду паведамляем наступнае.

У Рэспубліканскі План па правядзенні ў 2016 годзе Года культуры (далей - План), зацверджаны пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 21.01.2016 № 51, уключаны особны раздзел "Пашырэнне выкарыстання беларускай мовы", а таксама мерапрыемствы, прымеркаваныя да Міжнароднага дня роднай мовы.

Па інфармацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь правядзенне 21 лютага 2016 г. (Міжнародны дзень роднай мовы) ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі дыктанта па вучэбным прадмеце "Беларуская мова" з'яўляецца немагчымым у сувязі з тым, што гэты дзень з'яўляецца нядзеляй. Разам з тым у раздзеле прадугледжваецца на працягу года правядзенне прадметных алімпіяд, конкурсаў для вучняў, навучэнцаў і студэнтаў па беларускай мове і літаратуры.

У адпаведнасці з пунктам 52 у межах Міжнароднага дня роднай мовы будуць праводзіцца навуковыя канферэнцыі, дні і тыдні беларускай мовы, конкурсы, тэматычныя выхаваўчыя гадзіны, урокі-падарожжы, лекцыі, семінары, літаратурныя гасцёўні; арганізуюцца выставы літаратуры, творчыя сустрэчы з народнымі майстрамі, фалькларыстамі, навукоўцамі, беларускімі пісьменнікамі, дзеячамі мастацтва і іншымі прадстаўнікамі беларускай культуры.

Адносна прыняцця пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў галіне культуры, адукацыі і выдавецкай справы" лічым мэтазгодным паведаміць, што на дзяржаўным узроўні ў дастатковай ступені вядзецца мэтанакіраваная работа па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў жыцці грамадства.

У сувязі з гэтым лічым немэтазгоднай распрацоўку пастановы Урада аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў асобных галінах.

Па пытанню рэстаўрацыі помніка адной з літар беларускага алфавіту "Ў" у г. Полацку паведамляем, што згодна з пастановай Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 2008 г. № 208 "О бюджетной классификации Республики Беларусь" за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэта ажыццяўляецца фінансаванне толькі стварэння твораў манументальнага мастацтва.

Такім чынам, згодна з заканадаўствам, выдзяленне сродкаў на рэстаўрацыю дадзенага помніка не прадстаўляецца магчымым.

Улічваючы, што помнік літары "Ў" знаходзіцца на балансе КУП "ЖКГ г. Полацка", згодна з артыкуламі 44 - 46 Бюджэтнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, рэстаўрацыя названага помніка можа быць праведзена за кошт сродкаў мясцовага бюджэту ці за кошт бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі, іншых крыніц, не забароненых заканадаўствам.

Што датычыць пытанню вяртання статусу юрыдычнай асобы музею Максіма Багдановіча, завяршэння рамонту і стварэння новай экспазіцыі ў асноўным будынку, прывядзення ў належны выгляд яго філіяла па вул. Рабкораўскай у г. Мінску, то ў Ваш адрас быў накіраваны адказ Міністэрства культуры ад 07.12.2015 № 01-20/86/юл.

Намеснік Міністра В.М. Чэрнік.

# А мы можам...

*Уладзімір Макей:*

## Мова - гэта падмурак існавання народа і дзяржавы




У Міністэрстве замежных спраў адбылася літаратурная імпрэза "Ў дыялогу культур". Яна была арганізаваная міністэрствам і літаратурным музеем Янкі Купалы і прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы. Адкрываючы вечарыну, міністр Уладзімір Макей сказаў:

*- Мова, культура, традыцыі, нацыянальныя каштоўнасці - гэта падмурак, без якога немагчымае існаванне ні народа, ні краіны. Гэта скарб, якім мы павінны ганарыцца. Сёння сам час патрабуе ад нас не толькі звярнуцца да нашых вытокаў, але і паглыбляць знаёмства з традыцыямі, развіваць пачуццё грамадзянскасці і любоў да радзімы.*

На завяршэнне прамовы Уладзімір Макей прачытаў "Санет" Янкі Купалы.

З нагоды 100-гадовага юбілею шлюбу Янкі Купалы і Уладзіславы Станкевіч кіраўнікі і прадстаўнікі амбасадаў розных краін свету чыталі вершы пра каханне розных беларускіх паэтаў і па-беларуску.

На завяршэнне ўдзельнікі і госці паглядзелі выставу, прысвечаную творчасці беларускіх літаратараў розных гадоў.

***Радыё Свабода.***

## Агульнанацыянальная дыктоўка ў менскай сядзібе ТБМ



У памяшканні Таварыства беларускай мовы ў Менску 21 лютага прайшла чарговая дыктоўка, прысвечаная Дню роднай мовы. Агульнанацыянальная дыктоўка праходзіць у Беларусі ўжо дзявяты раз. Аднак не ўсе кіраўнікі арганізацый ТБМ, не кажучы ўжо пра ўсякіх палітычных дзеячоў, разумеюць яе значэнне. А яна ёсць самым мяккім і вельмі дзейным інструментам кансалідацыі нацыі. Задаючы пытанне: "А ці не спрабавалі вы праводзіць дыктоўку анлайн"? Будзе і анлайн, але жывых стасункаў паміж людзьмі ніхто не адмяняў. Мы проста мусім кожны год паказваць, што нас не меней, а боле. Сёлета ў сядзібу ТБМ прыйшло ў два разы больш людзей, чым летась, калі тэндэнцыя захавалася, на наступны год трэба будзе шукаць залу.



А чытала дыктоўку ўжо традыцыйна Алена Анісім. У канцы ўдзельнікі дыктоўкі паглядзелі два фільмы пра русіфікацыю і маглі атрымаць паштоўкі, выпушчаныя Лідскай гар. арганізацыяй ТБМ да Дня роднай мовы.

***Наш кар.***

# У Магілёве беларускую дыктоўку пісалі больш за 150 чалавек




Літаратара Міхася Зарэцкага згадалі магілёўцы напісаўшы да Міжнароднага дня роднай мовы дыктоўку па ягоным творы "Кветка пажоўклая". Сёлета беларускую дыктоўку ў Магілёве пісалі дзявяты раз. Арганізавала яе гарадская суполка Таварыства беларускай мовы пры садзейнічанні адміністрацыі Палаца культуры вобласці.

Адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы і згадаць творчасць рэпрэсаванага ў сталінскія часы пісьменніка ў Палац культуры прыйшло больш за сто пяцьдзесят чалавек.

У Магілёве беларускую дыктоўку апошнія некалькі год прысвячаюць мясцовым літаратарам, пра якіх грамадскасць ведае няшмат. 2016 год юбілейны для Міхася Зарэцкага (Касянкова). Сёлета яму 115 год, адзначае старшыня суполкі ТБМ Алег Дзьячкоў:

- Дзяцінства пісьменніка прайшло на Магілёўшчыне пад Шкловам у вёсцы Зарэчча, таму ў яго і псеўданім Зарэцкі. Вучыўся ён у Магілёве - у мясцовай духоўнай праваслаўнай семінарыі. У ёй адвучылася немалая кагорта гісторыкаў, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў. У трыццатых гадах мінулага стагоддзя Зарэцкі быў адзін з самых слынных і папулярных беларускіх пісьменнікаў. Яго рэпрэсавалі і на доўгія гады забылі. Наш абавязак вяртаць з небыцця такіх літаратараў. Ён наш зямляк і хто, калі не мы яго прыгадаем.

Сёлетняя дыктоўка стала самай масавай за ўсе гады яе напісання ў Магілёве. Вітаць удзельнікаў прыйшоў начальнік упраўлення ідэалагічнай працы Магілёўскага аблвыканкама Андрэй Кунцэвіч. У сваёй вітальнай прамове ён адзначыў важную ролю нацыянальнай мовы для існавання народа.

- Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі, - гэты выраз класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча яскрава сведчыць пра вялізную значнасць, якую адыгрывае мова ў жыцці народа, - казаў Андрэй Кунцэвіч. - І не здарма выкарыстанне ды пашырэнне роднай мовы - адна з найбольш важных задач у Год культуры, які абвешчаны сёлета ўказам Прэзідэнта нашай краіны.

Чыноўнік падзякаваў суполцы ТБМ і Палацу культуры вобласці за арганізацыю



*Прамаўляе Андрэй Кунцэвіч*



*Ганна Бандарэнка дыктуе*

дыктоўкі і тым, хто прыйшоў на яе, каб адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы.

- Я ўпэўнены, што толькі разам праз кансалідацыю, і сумесныя намаганні мы зможам паказаць усяму свету, што ёсць такі народ беларусы, - гэткімі словамі скончыў прамову начальнік упраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама.

Адрывак з твору Міхася Зарэцкага пад дыктоўку пісалі магілёўцы блізу гадзіны. Прыйшлі на яе людзі сталага веку і моладзь. Нямала было тых, хто наведаўся на яе ўпершыню.

- Напісанне дыктоўкі заклікае нас да патрыятызму і большай любові да радзімы, - патлумачыла сэнс свайго ўдзелу ў напісанні Агульнанацыянальнай дыктоўкі адна з маладых удзельніц. - Для мяне важна было больш даведацца пра творчасць Зарэцкага. А яшчэ я ніколі не ўдзельнічала ў такіх незвычайных мерапрыемствах. Яно захапляе.

- Я жыву ў Беларусі і тым ганаруся. Трэба захоўваць беларускую мову - адрэагавала на пытанне журналіста, ці змарнаваная гадзіна часу на дыктоўку, наступная суразмоўніца. - Я чытала аповед, па якім мы напісалі дыктоўку, але мяне больш уразіла, колькі людзей прыйшло пісаць дыктоўку. Гэта, безумоўна, натхняе і сапраўды, мова аб'ядноўвае.

Магілёўцы не першы год пішуць тэкст пад дыктоўку настаўніцы беларускай мовы і літаратуры з абласнога ліцэя № 1 Ганны Бандарэнкі. Педагог адзначае, што для яе важна ўдзельнічаць у Агульнанацыянальных дыктоўках, бо на іх прыходзяць людзі неабыякавыя да лёсу беларускай мовы.

- Гэтыя людзі змаглі адарвацца ад сваіх будзённых спраў, а значыць у іх ёсць цікавасць і ўнутраная патрэба далучыцца да беларускай мовы, - кажа Ганна Бандарэнка. - Гэта ж дужа важна для чалавека - адчуваць, хто ён такі.

Настаўніца лічыць: вельмі добра, што твор, па якім пісалі магілёўцы дыктоўку, уключаны ў школьную праграму. Аповесць "Кветка пажоўклая", кажа яна, дужа важная для разумення чалавекам наколькі ён павінен быць са сваімі каранямі і сваёй сям'ёй.

- Адарваўшыся ад сваёй зямлі, ад свайго, а значыць і ад мовы і народу - ты ніхто, - заключае Ганна Бандарэнка.

Два гады таму шклоўская суполка Таварыства беларускай мовы прасіла мясцовых чыноўнікаў, каб яны ўхвалілі наданне адной з вуліц у вёсцы Вялікае Зарэчча, якую далучылі да Шклова, імя Зарэцкага. Аднак просьбу ўвекавечыць памяць літаратара шклоўская ўлада выканаць не наважылася.

***Радыё Свабода.***

# Вершаванай дыктоўкай адзначылі Дзень роднай мовы ў Слоніме



Дзень роднай мовы слонімцы адзначылі вершаванай дыктоўкай. Яны пісалі пад дыктоўку верш свайго земляка Гальяша Леўчыка (1880-1944) "Мая прадмова", які паэт напісаў у пачатку ХХ стагоддзя:

*Нічога не хочу… Нічога, нічога -*
*Ні грошай, ні славы, ні шчасця сляпога…*
*А толькі ўсё жду я, каб родная мова*
*Хутчэй дачакала свабоднага слова!*
*Пакуль не дажду́ся багацця такога, -*
*Нічога не хочу… Нічога, нічога!*

Дыктоўку-верш чытаў даследчык беларускай культуры Сяргей Чыгрын. Пасля дыктоўкі ён прапанаваў усім вывучыць верш на памяць. А потым Сяргей Чыгрын распавёў пра жыццёвы і творчы шлях Гальяша Леўчыка, словы якога, на жаль, і праз 100 гадоў не сталі рэальнасцю. І мара пачынальніка беларускай літаратуры пакуль яшчэ не збылася.

***Барыс Баль,***
*Беларускае Радыё Рацыя, Слонім.*
*Фота аўтара.*

# Напярэдадні Дня роднай мовы ў Полацку спявалі







20 лютага ў Полацкім музеі традыцыйнага ткацтва Паазер'я адбылася спеўная вечарына "Мелодыка мовы", прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы. Майстар-клас па вывучэнні традыцыйных беларускіх песняў праводзіла Вольга Емяльянчык - антраполаг, выкладчыца Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, заснавальніца і кіраўніца студэнцкага фальклорнага гурта "Варган", удзельніца гурта "Гуда". На святочнай вечарыне ўдзельнікі імпрэзы развучвалі старадаўнія беларускія песні, даведваліся пра традыцыйныя тэхнікі песеннага выканання ў розных рэгіёнах Беларусі, адчулі непаўторную прыгажосць мелодыкі беларускай мовы.

*Беларускае Радыё Рацыя.*
*Фота Тацяны Козік.*

№ 8 (1263) 24 ЛЮТАГА 2016 г. Наша слова

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў сакавіку

Адаміна Алена
Адамовіч Славамір Генрыхавіч
Азарчык Раман Уладзіміравіч
Анацка Ганна
Андрэас Анатоль
Аніскевіч Алег
Антонава Алена Аляксеўна
Арочка Ларыса Іванаўна
Асіпчук Аксана Мікалаеўна
Аскерка Анатоль
Астаповіч Галіна Канстанц.
Астроўскі Аляксандр Алякс.
Аўсяннікава Тамара Алякс.
Бабко Таццяна Аляксандраўна
Баброўская Людміла
Бажыцка Алег Аляксандравіч
Бандарэнка Юлія Дзмітрыеўна
Бараноўскі Сяргей
Бародзіч Ганна Стафанаўна
Баршчэўскі Лявон Пятровіч
Барэль Таццяна Уладзіміраўна
Баўсюк Мікола
Бахцізіна Кацярына Георгіеўна
Белякоў Аляксандр
Бермант Раіса Барысаўна
Богдан Вадзім
Бойка Сяргей Васільевіч
Бубула Вольга
Бугай Казімір Іосіфавіч
Бугук Яўгенія Якаўлеўна
Бука Таццяна Леанідаўна
Булак Аляксандр
Бураўкін Арсеній Аляксеевіч
Бутылін Міхась Уладзіміравіч
Бяляева Наталля Уладзімір.
Васільчанка Мікола Рыгоравіч
Вашкевіч Андрэй Фрыдрых.
Вашкевіч Ігар Пятровіч
Войшніс Фаіна Сцяпанаўна
Вулхайзер Курт Фрэдрык
Вянгура Ніна Фёдараўна
Вярбіцкая Ядвіга Станіслав.
Вячорка Францішак Валянц.
Галец Вольга Георгіеўна
Гапеенка Анатоль Мікалаевіч
Гарасюк Аляксандр
Гардзей Н. М.
Гаркавая Людміла
Гарэлікава Ларыса Эдуардаўна
Герасімовіч Валянцін Іванавіч
Гіль Лілія Эдмундаўна
Гоўша Сяргей Канстанцінавіч
Грамыка Валянціна Васільеўна
Грыгор'еў Аляксандр Віктар.
Грынь Наталля Станіславаўна
Грышкевіч Юрый Генадзьевіч
Гук Ганна Іванаўна
Гуркоў Канстанцін Уладзімір.
Дабратвор Ілля Мікалаевіч
Давыдоўская Алена Сяргееўна
Дайлідка Юрый
Дамасевіч Віталій Уладзіміра в.
Дапкюнас Жанна Казіміраўна
Дарашкоў Сяргей
Дзіцэвіч Рычард Мікалаевіч
Дзмітруковіч Вольга Фёдар.
Другакова Марына Мікал.
Дрык Людміла
Дубіцкі Уладзімір Пятровіч
Дыдышка Ніна
Дэц Алена Георгіеўна
Жылко Антон Мікалаевіч
Занкевіч Сяргей Міхайлавіч
Згірскі Міхаіл Францавіч
Здзітавец Алена Уладзіміраўна
Зінавенка Сяргей Леанідавіч
Зянькевіч Барыс Барысавіч
Іванова Бярнарда Пятроўна
Ішчанка Галіна Мікалаеўна
Кавальчук Дзмітрый Леанід.
Кадушка Вера Уладзіміраўна
Казлова Аляксандра Віктар.
Каліновік Вольга Фёдараўна
Калоша Аляксандр Аляксанд.
Камінскі Сяргей Сяргеевіч
Кандрацьева Зінаіда Міхайл.
Капковіч Вольга
Карабач Марыя
Каралёва Таццяна Іванаўна
Карась Ганна Аляксандраўна
Караткевіч Таццяна Мікал.
Карлінскі Віктар Адамавіч
Карпіцкі Максім Юр'евіч
Кашкур Іосіф Станіслававіч
Кечанкоў Мікалай Мікалаевіч
Кірылаў Герман Іларыёнавіч
Кіслая Вольга Юр'еўна
Клімавец Яўгенія Антонаўна
Клімус Андрэй
Клінава Дарыя
Коваль Ірына Віктараўна
Козел Ларыса Міхайлаўна
Конічава Галіна
Корань Вольга
Кохан Павел Сяргеевіч
Крапоціна Вольга Іванаўна
Красніцкі Віктар Яўгенавіч
Крол Цімур Аляксандравіч
Крук Ларыса Васільеўна
Круюўскі Уладзімір
Крывенькая Марына Расцісл.
Кулеўскі Уладзіслаў Ігаравіч
Кулішча Эдуард Францавіч
Кунцэвіч Уладзімір Генадз.
Курбацкі Аляксандр Міхайл.
Кухаронак Валянціна Іванаўна
Кухто Васіль Іванавіч
Лазіцкі Дзяніс Андрэевіч
Лазоўскі Алег Алегавіч
Лапенка Аляксей Купрыянавіч
Лапіцкі Аляксей Іванавіч
Латушка Ірына
Латыш Аліна Лявонаўна
Леўшукоў Андрэй
Ліннік Мікалай Міхайлавіч
Лісоўскі Станіслаў Аляксандр.
Лісоўскі Тарас Станіслававіч
Ліцьвінчук Наталля
Лукашук Марыя Пракопаўна
Лукашэвіч Аляксей Пятровіч
Луханіна Алена Альбінаўна
Лысюк Станіслаў Сцяпанавіч
Ляўковіч Міхась Васільевіч
Мазанік Аляксадр Віктаравіч
Майсеёнак Алена
Макар Юры Уладзіміравіч
Макарэвіч Сяргей Іосіфавіч
Малажай Галіна Мікалаеўна
Малахава Людміла Віктараўна
Малашанка Зміцер Васільевіч
Малашчанка Ядвіга Алегаўна
Малышчыц Мікалай Васільев.
Мамонька Алена
Мамчыц Эдуард Іосіфавіч
Марачкін Аляксей Антонавіч
Марус Алена
Маханько Алена Валер'еўна
Махвіц Аляксей Яўгенавіч
Мацвееў Ігар Аляксеевіч
Мельнікава Анжэла
Мельнікава Святлана
Мельнікава Таццяна
Мерцалава Надзея Фёдараўна
Мінава Вера
Місевіч Мар'ян
Міхалькевіч Віталь Генрых.
Міхалькевіч Віталь Паўлавіч
Міхалькевіч Уладзіслаў Генр.
Міхнавец Дзіна Мікалаеўна
Мухіна Надзея Аляксандраўна
Мяцюн Таццяна Мар'янаўна
Насовіч Эдуард Піліпавіч
Несмяянава Людміла Данілаўна
Носава Галіна
Падгайскі Мікалай Вячаслав.
Пазднякова Анастасія Дзмітр.
Пазняк Марыя
Пальчэўскі Юрый Леанідавіч
Панкевіч Аляксандр
Папковіч Уладзімір Антонавіч
Паўлавец Зьміцер
Паўлюковіч Ніна
Пацюпа Юры
Пералайка Мікалай Уладзімір.
Перападзя Ліна Фёдараўна
Петрашэвіч Надзея Анатол.
Праконіна Вера Уладзіміраўна
Прыбыш Ірына Мікалаеўна
Прыгодзіч Фёдар Уладзімір.
Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч
Пятручык Уладзіслаў Анат
Рабчынская Лідзія Аляксееўна
Раманоўская Ганна Леанідаўна
Раманоўская Яніна
Рамашкевіч Ірына Георгіеўна
Рамашэўская Людміла Алякс.
Родзік Анатоль Леанідавіч
Рулевіч Алена Валер'янаўна
Русан Сяргей Іванавіч
Руткоўская Антаніна Фадз.
Рыбакоў Яўгеній Юр'евіч
Рыбачонак Аляксандр Міхайл.
Рымша Ангеліна Алегаўна
Сабалеўская Вольга Аляксан.
Савіцкі Максім
Садоўская Алена Станіслав.
Садоўскі Раман
Салдаценка Ігар Пятровіч
Санько Зміцер Хведаравіч
Саракавік Анатоль Вячаслав.
Сарнацкі Аляксандр Балясл.
Саўчанка Марыя Уладзімір.
Севасцьянава Ганна Сяргееўна
Сідаровіч Ала Рамуальдаўна
Сідарэвіч Святлана Рыгораўна
Сідарэнка Сяргей Уладзімір.
Сінькевіч Сяргей Алегавіч
Сіняўская Вера Васільеўна
Смаль Вячаслаў Мікалаевіч
Старавойт Наталля Юр'еўна
Стаўбун Ірына Іванаўна
Стахоўскі Станіслаў Аляксан.
Стаціўка Мікалай
Страха Соф'я Валянцінаўна
Стэпусь Васіль
Суравіцкі Віталь Анатольевіч
Сурскі Ягор Дзмітрыевіч
Сухарава Любоў Васільеўна
Сушко Вера Іванаўна
Сцямпкоўскі Сяргей
Сцяцко Павел Уладзіміравіч
Сянкевіч Васіль Іванавіч
Табушава Ірма Алегаўна
Тамулёнак Мікалай Іванавіч
Тацянкоў Генадзь Максімавіч
Толсцік Вольга
Точка Людміла Браніславаўна
Трайнель Віктар
Трацціякова Алена Уладзімір.
Трацяк Іван Іванавіч
Трашчанка Уладзімір Яўхім.
Турок Марыя Аляксандраўна
Уазіз Амін
Узлоўскі Валянцін
Уладыкевіч Алеся Міхайлаўна
Федаровіч Валерый Васільевіч
Філіпаў Мікалай Альбертавіч
Фірысюк Таццяна Мікалаеўна
Хабян Вольга
Хамрэнка Ірына Алегаўна
Харашылава Тамара Пятроўна
Хацятоўскі Аляксей Аляксан.
Храпавіцкі Васіль Сяргеевіч
Цвяткова (Русак) Надзея Іван.
Цурпанава Ірына
Цыркуноў Аляксандр Іванавіч
Чакур Анатоль Мміхайлавіч
Чаляпін Аляксей
Чарняўская Святлана
Чашчына Наталля Мікалаеўна
Чэчат Сяргей Аляксандравіч
Шагулін Алег Іванавіч
Шадыра Вадзім Іосіфавіч
Шарах Генадзь Мікалаевіч
Шаргаева Святлана Міхайл.
Шарэйка Вольга
Шахоўская Святлана Уладзім.
Шыпіла Вераніка Уладзімір.
Шыпіна Вераніка Уладзімір.
Шышкіна Лена Сяргееўна
Шышук Андрэй Іванавіч
Шэга Іван
Шэметава Алеся Аляксандр.
Якубоўская Таццяна
Якубук Наталля Раманаўна
Яноўская Марыя
Януковіч Вікторыя Эдуард.
Янчанка Алена Рыгораўна
Яўдошына Ларыса Іванаўна
Яцына Яна Мікалаеўна

# Гомельскае ТБМ падзякавала за беларускую мову





Напярэдадні Міжнароднага Дня Роднай мовы актывісты Гомельскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны разаслалі больш за 40 віншаванняў гомельскім прадпрыемствам і арганізацыям.

Акцыя стала прамежкавым падсумаваннем вынікаў кампаніі "Дзякуй за мову", у межах якой Гомельскае ТБМ заклікала фіксаваць ужыванне беларускай мовы на вуліцах горада ў рэкламе, на ўпакоўках тавараў, шыльдах і г. д. Фотаздымкі выкладаліся ў сацыяльныя сеткі.

- Мы лічым важным сёння заўважаць і падтрымліваць любую праяву беларускай мовы. Так, яе не шмат, але ўсё ў нашых руках і таму кампанія "Дзякуй за мову" падаўжаецца. Мы будзем пісаць далей, прапаноўваць сваю дапамогу ў якасці перакладчыкаў, падтрымліваць і дзякаваць, - дзеліцца старшыня Гомельскага ТБМ Алеся Аўласевіч.

Апроч лістоў-падзяк, дасылаліся лісты і тым арганізацыям, якія не ўжываюць беларускую мову, каб заахвоціць да яе выкарыстання і патлумачыць, што мова можа быць брэндам і адметнасцю для прасоўвання сваёй прадукцыі. Завяршылася акцыя ўскладаннем кветак да помніка Кірылу Тураўскаму.

Гомельскае ТБМ больш за 20 гадоў стаіць на варце беларускай мовы, тады рускамоўным арганізацыям выносілі "папярэджваньні" з занясеннем у "шэрую кнігу" беларускай мовы.

*Радыё Рацыя.*

# Гаворыш па-беларуску - маеш зніжку



Гарадзенская "Цудоўня" - крама, дзе можна набыць розныя сувеніры з беларускай сімволікай, цацкі і біжутэрыю з арнаментам - пачала акцыю ***"Размаўляй па-беларуску - атрымаеш зніжку"***. Гэтая прастора ўжо стала месцам правядзення розных сустрэчаў: тут ладзяцца "Гістарычныя аўторкі" і прэзентацыі розных кніг. Акцыя прымеркавана да Міжнароднага дня роднай мовы, які адзначаюць 21 лютага. Пра акцыю зніжак распавядае яе ініцыятар Андрэй Несцяровіч: - Дзень роднай мовы ва ўсім свеце - гэта насамрэч адметны дзень. Мы жывём у гэтым, таму ніяк не можам прайсці міма. Таму робім акцыю: кожны, хто прыйдзе да нас у краму і будзе размаўляць па-беларуску, атрымае зніжку 10% на ўсе вырабы "Цудоўні".



Вось жа ці разавая гэта акцыя, ці пастаянная?

*Радыё Рацыя, Гародня.*





# Літаратурная "Святліца"



6 лютага Магілёўскі літаратурны клуб "Святліца" правёў у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы паэтычную вечарыну па творчасці Анатоля Вярцінскага. Тамара Аўсяннікава - кіраўнік клуба, распавяла пра жыццёвы шлях і творчасць вядомага беларускага літаратара, а дзякуючы са "Святліцы" пачыталі ягоныя вершы. На жаль, сустрэча сталася не вельмі мнагалюднай, бо ніякіх паведамленняў пра яе з боку бібліятэкі зроблена не было, нават у дзень імпрэзы не было вывешана ніякай абвесткі на ўваходзе ў памяшканне бібліятэкі, хоць яна месціцца ў самым цэнтры горада, і за дзень побач праходзіць не адна тысяча магілёўцаў, ды і наведнікаў у бібліятэкі - не так ужо і мала. Як заўсёды ў гэткіх выпадках, гледачамі і слухачамі сталіся сябры магілёўскага ТБМ, а асноўную інфармацыю пра вечарыну можна было знайсці праз нашы суполкі ў сацсетках ды праз СМС-рассылкі і тэлефанаванні.

*Алесь Сабалеўскі, г. Магілёў.*

# Трэцяя магілёўская "Брама"



10 лютага ва ўрачыстай абстаноўцы ў вялікай зале магілёўскай Ратушы адбылася прэзентацыя трэцяга выдання гарадскога літаратурнага альманаха "Брама". Гэта значная падзея ў культурным жыцці Магілёва стала амаль што звыклай традыцыяй, што вельмі цешыць, бо, на шчасце, не прападае цяга і талент беларусаў да роднага слова як на Магілёўшчыне, так і па ўсёй Беларусі, ды не гледзячы на татальную русіфікацыю, адсутнасць хоць якой падтрымкі (калі не сказаць болей - супрацьдзеянне ўсяму беларускаму) з боку дзяржавы, пішуцца новыя творы, з'яўляюцца і растуць маладыя беларускамоўныя літаратары, маладзеюць і чытачы роднай літаратуры. У новым выданні альманаха прадстаўлены 32 аўтары самых розных узроставых і прафесійных груп - ад студэнтаў і звычайных рабочых да сівых паважаных прафесараў, а змешчаныя працы належаць да разнастайных літаратурных кірункаў - ад паэзіі і прозы, перакладаў і гумару да крытычных і літаратуразнаўчых эсэ, не была забыта і наша літаратурная спадчына.

З уступнай прамовай да аўтараў і чытачоў, якія сабраліся ў зале, выступіў Яраслаў Клімуць. Ён выказаў шмат цёплых словаў у адрас аўтараў, укладальнікаў і выдаўцоў альманаха, Саюза беларускіх пісьменнікаў, які прычыніўся да самой ідэі выдання і робіць гэткую вялікую працу, заклікаў шанаваць і падтрымліваць роднае слова, не забываць, што мы ёсць беларусы. Таксама Яраслаў Іванавіч заклікаў прысутных падпісвацца на газету ТБМ "Наша слова", бо і сам Яраслаў Івананавіч з'яўляецца адным з заснавальнікаў нашай арганізацыі, а зараз узначальвае магілёўскую абласную арганізацыю ТБМ, а ў новым выданні "Брамы" змешчаны ягоныя нарыс пра Алеся Адамовіча. Аматары беларускага слова атрымалі магчымасць гэтым вечарам паслухаць многіх аўтараў, чые творы былі надрукаваныя ў альманаху. Свае вершы і апавяданні пачыталі Міхась Булавацкі, Таццяна Барысік, Віталь Еўмянькоў, Тамара Аўсяннікава, Мікола Яцкоў, Сяргей Украінка, Аляксей Карпенка ды іншыя аўтары, і амаль усе яны - актыўныя сябры нашай гарадской суполкі ТБМ, і зразумела, мы заўсёды ладзім з імі і асобныя творчыя сустрэчы і вечары.

Набыць новы альманах ужо можна ў кнігарнях, і вельмі раю не адкладаць гэтага, бо наклады сучасных папяровых выданняў вельмі абмежаваныя і праз некалькі год будуць вялікім рарытэтам, ды і не ўсе аўтары маюць зараз магчымасць надрукаваць свае творы асобным выданнем, ну а калі некаму пашанцуе, то ён зможа і атрымаць подпісы аўтараў. Тым больш, што зрабіць гэта не так цяжка сёння, а там, хто ведае, можа нават пашчасціць мець у калекцыі аўтограф будучага Народнага пісьменніка ці нават Нобелеўскага лаўрэата!

*Алесь Сабалеўскі, г. Магілёў.*

# Беларуская дыктоўка ў Беластоку




Ужо чацвёрты раз у комплексе школ імя святых Кірыла і Мяфодзія ў Беластоку прайшла беларуская дыктоўка. Гэтым мерапрыемствам школа адсвяткавала Дзень роднай мовы, які адзначаецца ва ўсім свеце 21-га лютага. Сёлета веданне беларускай мовы правералі не толькі беластоцкія вучні, але і госці са школы ў Нарве. На думку арганізатаркі дыктоўкі, настаўніцы беларускай мовы Яаны Марко, такая форма адзначэння Дня роднай мовы падабаецца вучням:

*- Дзеці ахвотна пішуць беларускую дыктоўку да Дня роднай мовы, хоць увогуле дыктовак яны не любяць. І ўжо з верасня пыталіся ў мяне, ці яна будзе і ў гэтым годзе.*



Для дыктоўкі былі абраныя тэксты з кніжак "Бежанства 1915 года" і "З Мора ў горад" Віктара Шведа. Урачыстае падсумаванне вынікаў дыктоўкі ўжо ў панядзелак. Найлепшыя вучні атрымаюць узнагароды: кніжкі беларускіх аўтараў. Чытаў дыктоўку дзецям наш рэдакцыйны калега Улад Грынеўскі.

*Уля Шубзда, Беларускае Радыё Рацыя. Фота аўтара.*

# FORWARD абвяшчаем аб поўным пераходзе на беларускую мову

З 21 лютага (Міжнародны дзень роднай мовы) фотастудыя FORWARD абвяшчае аб поўным пераходзе на беларускую мову. Сайт фотастудыі, суполкі ў сацыяльных сетках, абслугоўванне кліентаў, праекты, рэкламныя матэрыялы будуць распрацоўвацца і весціся на роднай мове.

Такія змены звязаны з жаданнем каманды фотастудыі FORWARD паспрыяць пашырэнню выкарыстання беларускай мовы ў дзелавым асяродку нашай краіны, а таксама сваім прыкладам паказаць, што карыстацца роднай мовай не так складана, як, на жаль, думае большасць нашых суайчыннікаў. Што па-беларуску можна весці бізнес, будаваць адносіны з кліентамі, што беларуская мова можа можа быць жывой, цікавай і крутой! Мы спадзяемся, што знойдзем падтрымку і ўзаемапаразуменне са старымі і новымі кліентамі фотастудыі.

Фотастудыя FORWARD працуе з 2013 года, і за гэты час было рэалізавана некалькі праектаў на беларускай мове. Адзін з іх клуб для беларускамоўных бацькоў і дзетак Бацькоўскі клуб "Крочым разам" http://forwardfoto.by/krochymrazam.

А таксама прагляды кінастужак з перакладам на беларускую мову ў межах праекту "Кінаклуб па панядзелках" http:// forwardfoto.by/kino.

З павагай,
Канстанцін Гарэцкі

**Фотастудыя FORWARD**
www.forwardfoto.by
+375 (29)1071837
+375 (29) 5007481
fotok.garecki@gmail.com

# Мы паўстаём

Падчас правядзення 9-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі на аграсядзібе "Пескі" ў Лідскім раёне адбыўся імправізаваны "круглы стол", на якім былі разгледжаны пытанні функцыянавання Ёдкаўскай суполкі ТБМ, распаўсюду газеты "Наша слова" і часопіса "Лідскі летапісец", пашырэння колькасці падпісчыкаў.

Падчас імпрэзы была праведзена перарэгістрацыя сяброў ТБМ Трацякоўскага сельсавета (Ёдкі - цэнтр сельсавета).

Перарэгістрацыю прайшлі пяць чалавек.

У выніку ўзнікла магчымасць надаць другое дыханне Ёдкаўскай суполцы ТБМ, якая афіцыйна стаіць на ўліку ў райвыканкаме, але моцна аслабла кадрава, хто памёр, хто з'ехаў.

Па прапанове сябра рэспубліканскай Рады ТБМ і сябра Лідскай рады ТБМ Станіслава Судніка быў скліканы сход Ёдкаўскай суполкі ТБМ.

Сход аднагалосна абраў старшынём суполкі Мінца Валерыя Уладзіміравіча з в. Шырокае. Скарбнікам абраны Міхалевіч Аляксандр Анатольевіч, рэвізорам абраны Карабач Віталь Віктаравіч.

Сябры суполкі паведамілі, што на дыктоўку з'явіліся не ўсе сябры ТБМ з сельсавета, таму перарэгістрацыя будзе працягнута, і суполка аднязначна папоўніцца новымі сябрамі. Старшыня суполкі атрымаў Статут ТБМ і даручэнне - у бліжэйшы час афарміць пратакол сходу.

Арганізацыйна суполка ўваходзіць у Лідскую арганізацыю ТБМ.

Станіслаў Суднік адказаў на пытанні, у прыватнасці даўёў пазіцыю ТБМ адносна будучых выбараў у Палату Прадстаўнікоў.

Каб мець суполкі ТБМ у кожным сельсавеце, то справа адраджэння і захавання нашай мовы рухалася б латвей.

На сёння сябры суполкі ўжо развозяць сто асобнікаў "Нашага слова" па ўсёй Беларусі і працуюць над падпіскай на газету.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# 9-я Агульнанацыянальная дыктоўка на Лідчыне

Сёлета на Лідчыне Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі ў новым фармаце. У пачатку лютага Лідскі райвыканкам накіраваў ліст ва ўстановы культуры і адукацыі, у якім рэкамедаваў усім установам правесці сёлета 9-ю Агульнанацыянальную дыктоўку. З 19 лютага дыктоўка пайшла па Лідчыне.

Пачала дыктоўку дзяржаўная установа культуры "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы". Тут **19 лютага** ў дыктоўцы прынялі больш за 20 чалавек.





Дыктавала тэкст "Радасць адкрыцця" паводле Янкі Сіпакова намеснік дырэктара бібліятэкі Алена Быстрыцкая.

Са сваімі песнямі выступіў перад удзельнікамі беларускай дыктоўкі намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, вядомы лідскі бард Сяргей Чарняк. У мецэнацкім прадпрыемстве таксама прыняў удзел Віталій Радчанка, аўтар рамана "АВЕССАЛОМ. Начало", які падараваў некалькі экзэмпляраў бібліятэцы.

***Наш кар.***

---





**19 лютага** пісалі дыктоўку ў Лідскім бібліятэчным філіяле № 6 па вул. Фурманава.

---

**19 лютага** пісалі дыктоўку ў бібліятэцы вёскі Ходараўцы Лідскага раёна. Фотарэпартаж пакуль не паступіў.

**20 лютага** 9-ю Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі ў Мінойтаўскай бібліятэцы Лідскага раёна. У бібліятэку сабралася каля 20 чалавек, прынамсі месца за сталамі ледзь хапіла. Большасць удзельнікаў былі вучні старэйшых класаў Мінойтаўскай СШ.





Чытала тэст Янкі Сіпакова "Белавежскія зубры" настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ганна Чаславаўна Енка, яна ж па ўсіх правілах школьнай навукі і праверыла дыктоўкі.




Пераможцамі сталі:

Гур'ян Анастасія - 10 балаў;

Мусатава Надзея - 10 балаў;

Шчалканогава Марыя - 9 балаў;

Шашкевіч Анастасія - 9 балаў;

Пішчык Караліна - 9 балаў;

Халявінская Марыя Міхайлаўна - 9 балаў.

Агульнанацыянальная дыктоўка пісалася ў Мінойтах упершыню, але, трэба думаць, не ў апошні раз.

Пасля дыктоўкі з канцэртам патрыятычных беларускіх песень выступіў намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны бард Сяржук Чарняк. Яго выступ настолькі спадабаўся прысутным, што адразу паступіла запрашэнне прыехаць з канцэртам у Мінойтаўскую школу.

Пасля дыктоўкі ўсім прысутным былі ўручаны буклеты да 425-х угодкаў надання гораду Лідзе Магдэбургскана права, а таксама камплекты паштовак з серыі "Не забывайма беларускія словы", выпушчаныя Лідскай гарадской арганізацыяй ТБМ да Дня роднай мовы.

***Наш кар.***

---



**20 лютага** прайшла 9-я Агульнанацыянальная дыктоўка у Доме культуры г. Бярозаўкі. Сюды сабраліся сябры Лідскай арганізацыі ТБМ з г. Бярозаўкі. Сёлета іх аказалася няшмат.

Верш "Пагоня" Максіма Багдановіча чытаў старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Станіслаў Суднік.

Найлепш напісала Ашурак Вольга, на другім месцы - Сяржук Чарняк, на трэцім - Сяргей Трафімчык.

Пасля дыктоўкі Сяржук Чарняк арганізаваў канцэрт патрыятычнай песні.

Усе прысутныя атрымалі камплекты паштовак з серыі "Не забывайма беларускія словы".

***Наш кар.***




# 9-я Агульнанацыянальная дыктоўка на Лідчыне



**20 лютага** пісалі Агульнанацыянальную дыктоўку ў 4-ым бібліятэчным філіяле г. Ліды. Тэкст "Белавежскія зубры" чытала настаўніца беларускай мовы Яўгенія Станіславаўна Волкава.




**20 лютага** супрацоўнікі філіялаў "Беліцкая сельская бібліятэка" і "Дварышчанская сельская бібліятэка" запрасілі сваіх сяброў і прыхільнікаў на беларускую дыктоўку. Сярод якіх былі навучэнцы мясцовых школ, супрацоўнікі сельскіх дамоў культуры, сельскіх Саветаў і г.д.




У бібліятэцы-клубе вёскі Далекія Лідскага раёна дыктоўку з кнігі Якуба Коласа "На ростанях" чытала загадчыца Ушко Вольга Іванаўна. У дыктоўцы прынялі ўдзел 7 вучаніц Дзітвянскай СШ (у саміх Далекіх школы няма). Па выніках дыктоўкі лепшай аказалася Ганевіч Юлія - 9 балаў; па 8 балаў атрымалі Куцанкова Аляксандра, Паварга Вольга, Ганевіч Валерыя.

Пасля дыктоўкі перад прысутнымі выступіў бард Сяжук Чарняк, а ўсім удзельнікам былі ўручаны буклеты да 425-х угодкаў надання г. Лідзе Магдэбургскага права і камплекты паштовак з серыі "Не забывайма беларускія словы".

***Наш кар.***

**21 лютага** пісалі дыктоўку ў 3-м бібліятэчным філіяле г. Ліды. Чытаў тэкст "Белавежскія зубры" паводле Янкі Сіпакова кіраўнік літаб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце" Алесь Хітрун.



Па выніках дыктоўкі тэкст без адзінай памылкі напісала бібліятэкар 3-га філіяла Паповіч Алена Янаўна. 2-е месца з адной апіскай заняў рэдактар "Нашага слова" Станіслаў Суднік. На трэцім месцы - студэнтка Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта Паповіч Таццяна Сяргееўна.



Пасля дыктоўкі прайшоў канцэрт беларускай песні Сяржука Чарняка. Трэба аддаць належнае сябру рэспубліканскай Рады ТБМ, намесніку старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Сяржуку Чарняку, за тры дні лідскай дыктовачнай эпапеі ён выступіў 6 разоў: 5 разоў на дыктоўках і адзін раз на беларускім КВЗ у 14-й школе горада Ліды.

Пасля дыктоўкі ўсім удзельнікам былі ўручаны буклеты да 425-х угодкаў надання г. Лідзе Магдэбургскага права і камплекты паштовак з серыі "Не забывайма беларускія словы".

***Наш кар.***



**21 лютага** пісалі 9-ю Агульнанацыянальную дыктоўку на аграсядзібе "Пескі". Тут сабраліся патрыятычныя жыхары г. Ліды, г. Бярозаўкі і бліжніх вёсак.

Беларускі ваярскі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." чытаў старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.

Найлепш напісаў Карабач Віталь, 2-е месца заняў Юрась Дзяшук, 3-е месца - у Вітольда Ашурка.

***Наш кар.***

Вось так выглядала Лідчына сёлета. Летась дыктоўку пісалі на чатырох пляцоўках: у Лідскай і Бярозаўскай бібліятэках, у Ходараўскай школе і ў некалькіх групах Лідскага каледжа. Сёлета такіх пляцовак ужо было 11, а з 20 лютага (фактычна з 19-га) пачаўся тыдзень беларускай мовы ў навучальных установах Лідскага раёна.Там таксама акрамя шэрагу культурніцкіх мерапрыемстваў будуць пісаць Агульнанацыянальную дыктоўку.

Для дзяцей дыктоўка, можа, не самы любімы элемент навучальнага працэсу, але цалкам звыклы і зразумелы.

Нажаль, у навучальных установах Лідскага раёна не засталося арганізацый ТБМ, а формула нашай дзейнасці магла б быць зусім прымальнай і для школ, і для іншых навучальных установаў.

Сёння мы кажам: "Вялікі дзякуй!" лідскім уладам за разуменне важнасці моўнага пытання ў краіне. Бо толькі грандыёзнымі высілкамі дзяржавы і грамадкасці мы можам развярнуць сітуацыю з мовай у лепшы бок і развернем.

Мы цвёрда ў гэта верым, бо без веры жыць немагчыма. Мы верым у жыццёвы стрыжань нашага народа, які не гнецца і не ломіцца ўжо тысячу гадоў.

***Станіслаў Суднік.***



№ 8 (1263) 24 ЛЮТАГА 2016 г. Наша слова

*Яўген Гучок*

## Катэхізіс Віктара Дзмітрыева

Калі Віктар Дзмітрыеў, гарачы прыхільнік беларушчыны, пастаянны актыўны ўдзельнік праграм і мерапрыемстваў кампаніі "Будзьма" пры ТБМ імя Францішка Скарыны ўпершыню з'явіўся на парозе сядзібы гэтай арганізацыі, на пытанне, як ён прыйшоў да беларускасці, ён адразу і не сцяміў, што адказаць. Было для яго дзіўным чуць такое. А потым упэўнена прамовіў:

*- А я ніколі ад яе і не адыходзіў. Мова, закладзеная ў твой ген праз бацькоў - у душу, сэрца і розум - ніколі не забываецца, не губляецца, не пакідае цябе. Праўда, калі-нікалі трохі прыглушаецца.*

Нарадзіўся Віктар Дзмітрыеў у 8 лютага 1951 года ў г. Вольску Саратаўскай вобласці (Расія). У бацькоў былі беларускія карані і навыкі жыцця, ды да вайны яны і жылі ў Беларусі. У 1952 годзе бацькі вярнуліся на Радзіму, і, вядома, з імі сюды, на сваю гістарычную Радзіму прыехаў немаўлёнак Віктар. Некаторы час жылі ў Шацку (Пухавіцкі раён), пасля - у Валяр'янах (Уздзенскі раён), а крыху пазней перабраліся ў Менск. Тут Віктар скончыў сярэднюю школу. Як дапытлівы юнак ён змог уладкавацца ў Акадэмію Навук. Далей была тэрміновая служба ў войску, у Паветрана-дэсантных войсках (Літва). Пасля войска скончыў Сасаўскую лётную вучэльню (Разанская вобласць), а пазней - Кіравааградскую школу вышэйшай лётнай падрыхтоўкі. Звязаўшы свой лёс з небам, атрымаў ён па гэтай частцы і вышэйшую адукацыю - скончыў Ленінградскую Акадэмію грамадзянскай авіяцыі.

Працаваць пачаў пілотам Аэрафлоту ў Якуціі. Праз гады звязаў свой лёс з Менскім аэрадромам. Добрыя веды ў авіяцыйных пытаннях і павага да лётных законаў (напісаных часам крывёю і жыццямі некаторых папярэднікаў), іх бездакорнае выкананне дазволілі В. Дзмітрыеву правесці безаварыйна ў паветры 6000 (шэсць тысяч) гадзін. Зараз ён на пенсіі, але працягвае працаваць інжынерам у Беларускай акадэміі авіяцыі.

Спадар В. Дзмітрыеў - асоба творчая. Яшчэ ў школе ён браў удзел у рабоце тэхнічнага гуртка і спрабаваў адначасова пісаць вершы. А працуючы ў Акадэміі Навук, ва ўзросце 18 гадоў адзначыўся як суаўтар у стварэнні плазменных генератараў і навуковых публікацый па гэтай праблеме. Пазней у Менскім авіязаводзе В. Дзмітрыевым быў распрацаваны, выкананы і ўкаранёны апарат аўтаматычнай падачы стандартных знакаў азбукі Морзе. Веданне гэтай азбукі было абавязковым для шэрагу авіяцыйных спецыялістаў. Значным і цікавым дасягненнем у тэхнічнай творчасці В. Дзмітрыева з'явіўся яго ўдзел у стварэнні версіі (копіі) абраза Маці Божай Вастрабрамскай, што ў Вільні. Абраз пасля асвячэння яго біскупам Тадэвушам Кандрусевічам адразу пачаў вызначацца як цудатворны. Зараз ён знаходзіцца ў касцёле ў Лельчыцах. (Гомельская вобласць). Як і раней, як і заўсёды, у В. Дзмітрыева - новыя тэхнічныя распрацоўкі і напрацоўкі, вядома, з патэнтнай вартасцю, суаўтарстваі у навуковых публікацыях, павага калег.

А ці мела працяг спроба пісаць вершы? Падчас знаходжання ў авіяатрадзе на Крайняй Поўначы працягваў час ад часу пісаць вершы. Некаторыя з іх друкаваліся ў газеце "Северная Трасса" і "Воздушный транспорт". Там друкавалі па-руску. Як кажуць, паэтычны сверб не пакідае паэтычную натуру. Апошнім часам В. Дзмітрыеў засвяціўся сваімі публікацыямі на беларускай мове ў альманахах "Гоман", "Талент", "Гамалівае дрэва любові" і інш. Была ў яго адна публікацыя і ў "Нашым слове".

Спадар В. Дзмітрыеў мае уласнае меркаванне, а калі дакладней - катэхізіс наконт таго, хто можа лічыцца беларусам. Вось яго кароткі змест:

- лічыць сябе беларусам;
- жыць, як беларус;
- думаць і размаўляць на беларускай мове;
- заўсёды памятаць пра Беларусь, яе гісторыю;
- не з'язджаць з Беларусі;
- з павагай ставіцца да ўсіх, хто паважае Беларусь і беларусаў, іх мову і гісторыю;
- не ставіцца крытычна-адмоўна да тых, хто часова размаўляе на трасянцы;
- выконваць залатыя правілы народнай мудрасці;
- а ўжо на хаўтурах ці пасля грамадская думка вынясе прысуд: "быў беларусам, ці не быў".

Вось такі спадар Віктар Дзмітрыеў - чалавек разнастайных зацікаўленняў, здольнасцяў і ведаў, надзейны і нязрадлівы для Беларусі і яе людзей, які не ўяўляе сябе без творчасці і працы.

Пажадаем яму яшчэ доўга жыць і працаваць, працаваць на карысць Беларусі, беларусаў і ўсіх добрых людзей - сваіх родных і блізкіх.

Спадар Віктар Дзмітрыеў мае сына і ўнука.

І яшчэ. Ён сярод іншых ворагаў беларушчыны не меншым злом лічыць п'янства, пра што і гаворыць гэты верш:

### Не пі

"Не пі, беларус, не пі!" -
Казала славутая Цётка.
Не пі беларус не пі!
Хіба так пілі твае продкі?!

Не пі, беларус, не пі!
Бо розуму п'яны не мае.
Не пі, беларус, не пі!
Хоць прагне спаіць
цябе чорная зграя.

Не пі, беларус, не пі!
Уздымі ты свой голас да неба.
Не пі, беларус, не пі!
Гарэлка табе не трэба.

Не пі, беларус, не пі!
Узыходзь на шлях не ганебны,
Такім ты будзеш творцу патрэбны.
Не пі, беларус, не пі!

## Адзін з найдаўнейшых тэкстаў чалавецтва, "Рыгведу", пераклалі на беларускую мову

Паэт і перакладчык Ігар Кулікоў збірае грошы на выданне першых 100 асобнікаў унікальнага перакладу.

На платформе "Талака" распачаты збор грошай на выданне паэтычнага беларускага перакладу першай часткі індыйскай "Рыгведы", старажытнага зборніка рэлігійных гімнаў. Пераклад выканаў беларускі паэт Ігар Кулікоў. На выданне першых 100 асобнікаў патрэбны 27 мільёнаў.




Як распавёў Свабодзе Кулікоў, гэты пераклад не меней важны для беларускай культуры, чым пераклады "Адысеі" і "Іліяды":

- Рыгведа - гэта галоўны літаратурны помнік індыйскай цывілізацыі і адзін з самых старажытных літаратурных твораў чалавецтва ўвогуле. Дакладная дата яго стварэння невядомая, бо гэта быў вусны тэкст, які перадаваўся з пакалення ў пакаленне. Але, па лінгвістычных звестках і некаторых гістарычных, прыблізная дата стварэння Рыгведы - 1500 год да нашай эры, а можа і раней.

Гэта зборнік гімнаў, прысвечаных розным ведычным багам, такім, як **Агні** - то бок агонь, **Індру** - бог-грамавержац, **Варуна**, **Мітра** і іншыя. У гэтых гімнах паэты звярталіся да багоў з просьбай даць ім славы, багацця, натхнення да стварэння новых малітваў і гімнаў, часам сустракаюцца гімны-замовы, дзе аўтар просіць абараніць яго ад розных хваробаў, няўдачаў, ворагаў.

"Рыгведа" напісаная на санскрыце, класічнай і святой мове Індыі, адной з самых архаічных індаеўрапейскіх моваў. З таго часу, калі ствaралася "Рыгведа", санскрыт у Індыі не пераставаў вывучацца, дагэтуль людзі вывучаюць яго не толькі як другую мову. Па розных ацэнках ёсць парадку 10 тысяч чалавек, якія карыстаюцца санскрытам як першай роднай мовай.

Далёка не кожная мова і культура могуць пахваліцца тым, што ў іх ёсць гэты тэкст. Поўны пераклад Рыгведы існуе толькі на некалькіх мовах - гэта нямецкая, ангельская, расейская, французская і некаторыя індыйскія, паэтычных яшчэ меней.

Мне здаецца, любая культура, якая прэтэндуе на нейкае сур'ёзнае месца, павінна мець нейкі абсяг перакладзеных класічных твораў, як "Іліяда" і "Адысея" Гамера. У гэты ж шэраг уваходзіць і "Рыгведа".

Кніжка будзе ўключаць некалькі дадаткаў. Акрамя саміх гімнаў, там будзе шэраг артыкулаў пра тое, што такое "Рыгведа", адкуль яна ўзялася, будзе некалькі артыкулаў пра асаблівасці мовы і стылю "Рыгведы" і чаму я абраў менавіта такі спосаб яе перакладаць. Пасля гімнаў будзе шэраг артыкулаў пра ключавыя панцці ў "Рыгведзе", як мантра ці ахвяра, спіс заўвагаў да кожнага гімну, каб чытач атрымаў уяўленне пра тое, як жылі гэтыя людзі і што гэта азначае. Будзе таксама спіс рэдкіх беларускіх словаў і наватвораў, якія я ўжываў у перакладзе.

### хвалебен 189

*песнятворца - Агастйа, сын Мітры і Варуны*
*боства - Агні*
*вершаваны памер - трыштубг*

о Агні вядзі нас пуцінаю краснай
вядушчы ўсіх вехаў о божа да скарбу
адпрэч ад нас грэх што збівае з дарогі
учцім найвялікшым
цябе шанаслоўем /1/

о Агні ізноў перапраў нас шчасліва
на той бераг бед праз усе перашкоды
шырокаю ёмкай
прасторнай цвярдыняй
будзь нам і нашчадкам
на спор і здароўе /2/

о Агні адпрэч ад нас хіры-хваробы
хай хірацъ плямёны без Агні-апекі
ізнову зрабі ты Зямлю ўрадлівай
каб многаручыла о божа з багамі /3/

баронь нас Агні абаронай нястомнай
на любым пасадзе ўспыхнуўшы ярка
хай страх славаслоўцу твайго
о найюны
ні сёння не знойдзе
ні потым о дужы /4/

не кідай нас Агні ліхім на патолю
ікластым ворагам о божа няшчасцю
не кідай жадлівым
жарлівым жыгучым
о моцны не здраджвай
ты нас верадліўцам /5/

такі ж бо як ты о народжаны ладам
апеты дарыцьме для цела затулу
ад шкоды ўсякай ад што-нагавору
ты сторож о божа
ад подступаў злосных /6/

учцівых няўчцівых
разрозніўшы лёгка
прыходзіш о Агні да людзей на ежу
слухмяным за ежаю будзь чалавеку
бы конь націраны
руплівцамі рупна /7/

прамовілі мы дзеля бога прамовы
сын Манаў даверныя дужаму Агні
здабудзьма з рушамі
скарб тысячакротны
хай будзе грамада насытная
і шчодрай /8/

***Радыё Свабода.***




**Да 120-х угоднаў з дня нараджэння Кандрата Крапівы "Белпошта" выдала мастацкі маркаваны канверт. Мастак М. Рыжы.**

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/
http://nashaslova.mns.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 22.02.2016 г. у 17.00. Замова № 273.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 9800 руб., 3 мес.- 29400 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.